*Марыя Шаўчонак*



# СВЯТА ЗЯМЛІ



## *У БЕЛАРУСЬ БУСЛЫ ПРЫНЕСЛІ*

*У Беларусь буслы прынеслі*
*Калісьці і мяне, і вас...*
*Праз гай знаёмы, быццам песня,*
*Ідзе вясна ў каторы раз.*

*І зноў буслы ляцяць на гнёзды*
*І, як цары, займаюць трон,*
*А беластволыя бярозы*
*Аж слепяць свежасцю карон.*

*Здалёк крылом махае бусел,*
*А я — узнятаю рукой.*
*І зноў, як некалі, раблюся*
*Дзяўчынкай з вёскі за ракой.*

*І так мне люб і лес прырэчны,*
*І поле, дзе дыміць ралля...*
*І мне здаецца — я тут вечна,*
*Як сонца, неба і зямля.*

## *СВЯТА ЗЯМЛІ*

*Ёсць непаўторныя імгненні,*
*Як неразгаданыя сны.*
*Стаю ў маўчанні і здзіўленні*
*На самым беразе вясны.*
*Вось сонца глянула з-за гаю,*
*Крыштальны дзень,*
*як мой настрой.*
*Яго, як радасць я прымаю,*
*І п'ю,*
*як хмельных траў настой.*
*Ёсць святы розныя ў прыродзе,*
*І разам з ёй святкуем мы,*
*Калі ў сады вясна прыходзіць*
*І першы белы дзень зімы.*
*Святкуюць птушкі свае святы,*
*Ёсць святы ў дрэў,*
*ёсць святы ў рэк...*
*Іх хараством душа багата*
*І акрылёная — навек.*

* * *

*Пра вечнае,*
*пра самае святое*
*Мне думаецца сёння зноў і зноў,*
*У небе ясным — сонца залатое,*
*У сэрцы — непадкупная любоў.*
*Цаню палёт,*
*імклівасць і бяскрайнасць.*
*Зялёны ліст,*
*як першы дар вясны.*
*А вечнае — зусім не аднастайнасць,*
*Яно — і звон крыніц і шум лясны.*
*Яно — вось гэты ўзгорак і сасонкі,*
*І песня жураўліная ў вышы.*
*На шыбе промень*
*залацісты,*
*тонкі*
*І стоенасць асенняя душы.*

* * *

*Шчаслівая,*
*музыкай сёння жыву.*
*Святло*
*напаўняе душу,*
*На хвалях мелодыі*
*ўдалеч плыву,*
*Прыпынку нідзе не прашу.*
*Успыхваюць гукі,*
*як зоркі ўначы,*
*Не трэба пытанняў і слоў.*
*Усё, як у сне,*
*таямніча маўчыць,*
*Таму што спявае любоў.*

* * *

*Белым вечарам спяшаюцца машыны*
*Як мага хутчэй асіліць свой маршрут.*
*А сняжынкі густа сцелюцца пад шыны*
*І на дрэвах асядаюць там і тут.*
*Па бязлюднай,*
*па лясной дарозе едзем,*
*Дзе ты родны і такі жаданы дом?*
*І калі, калі,*
*нарэшце, ўжо мы ўгледзім*
*Хоць агеньчык за прычыненым акном?*
*Там, я ведаю,*
*чакаеш ты ў бяссонні,*
*Прагна ловіш кожны голас,*
*кожны стук.*
*Як ніколі,*
*да цябе спяшаю сёння,*
*Да тваіх,*
*матуля,*
*добрых цёплых рук.*
*Як ніхто нідзе*
*яны сагрэюць.*

*А пасля —*
*зноў выправяць у шлях...*
*Мне здаецца, толькі рукі маці ўмеюць*
*Зняць цяжар,*
*які прыносім на плячах.*

* * *

*Яшчэ з дзяцінства знаю я,—*
*Няма вясны без салаўя.*

*Без песняў не бывае свят,*
*Не расцвіце без сонца сад.*

*Не будзе шчасця без сяброў,*
*Не знойдзеш праўды без жыцця,*
*І да Зямлі сваёй любоў*
*Мацней любога пачуцця.*

## НАРАЧ

*Па залатому дну іду,*
*І сонца ў прыгаршчах іскрыцца.*
*На гэту светлую ваду,*
*На гэты дзень не надзівіцца.*
*Калі і ёсць на свеце рай,*
*Дык зараз ён перада мною.*
*На хвалях, Нарач, пагайдай,*
*Я сёння, як дзіця малое.*
*Тут і сасны напеўны шум,*
*І водар траў такі знаёмы.*
*...Кудысьці знік і час, і сум,*
*Няма ні клопатаў, ні стомы...*
*Мясціны лепшай не знайду.*
*Мне ёй па праву ганарыцца.*
*...Па залатому дну іду.*
*І сонца ў прыгаршчах іскрыцца.*

* * *

*Як быццам зорка на дасвецці,*
*Сняжынка на ляту растала*
*І цёплай кропелькаю стала,*
*Прабіла снег, зямлю сагрэла,*
*Пралескай першай засінела...*
*І рады ўсе мы ёй, як дзеці.*

* * *

*Быў жнівень,*
*і звінела ціха жыта,*
*І дыхала мне ў твар гарачынёй,*
*А кожны колас*
*сонцам быў наліты*
*І важка нахіліўся над зямлёй.*
*Як быццам бы хацеў сказаць ёй*
*«дзякуй»,*
*Што шчодра поіць сокамі жыцця.*
*І дакранаўся да рукі з падзякай,*
*З даверлівай пяшчотай,*
*як дзіця.*
*...Быў жнівень,*
*і звінела ціха жыта,—*
*Не, не дарэмна мной вясна пражыта.*

* * *

*Мара мая разбілася...*
*Вострыя, як іголкі,*
*У сэрцы жывуць асколкі.*
*Мара мая разбілася...*
*Я ўслед за ёй не ўзляцела,*
*І вось — не гэтак усё, як хацела.*
*Можа, я ў сабе памылілася,*
*Ці не хапіла сілы,*
*Ці, можа, падрэзалі крылы...*
*Сінічка стукнула мне ў акно.*
*Няўжо і яна за мной заадно*
*Сумуе, хвіліны, гадзіны лічыць*
*Або на прастор за сабою кліча?*
*Мара мая разбілася...*
*Больш да яе не вярнуцца.*
*...Сінічка, адкуль ты з'явілася?*
*Табе адной не магу не ўсміхнуцца.*

* * *

*Туман, туман, пара асенняя,*
*Рабіны ў чырвані гарацъ.*
*Пара асенняя, вясельная,*
*Цябе ні з чым не параўнаць.*
*Ты вабіш шчодрасцю спрадвечнаю*
*І непаддзельнай дабратой,*
*Твой кожны ліст зарой адсвечвае,*
*Звініць манеткай залатой.*

* * *

*Нарачанскія сосны,*
*Нарачанскія сёстры,*
*Мае мары і сны,*
*Мае лепшыя вёсны...*
*Вы з'ядналі ў адно*
*Дарагія імгненні*
*І глыбока ў душу*
*Мне пусцілі карэнні.*
*Непрыкметна і ціха*
*калышуцца хвалі,*
*У мільёны званочкаў*
*звіняць верасы.*
*Пра бяскрайнія далі*
*вы мне, сосны, спявалі,*
*І дарылі лясы*
*ўсе свае галасы.*
*Нарачанскія сосны,*
*Нарачанскія сёстры,*
*Мае мары і сны,*
*Мае лепшыя вёсны.*

* * *

*Пясок апёк руку,*
*як прысак,*
*Ад смагі поле анямела.*
*Хоць некалькі халодных пырсак*
*Зямля ў хмурынкі просіць белай.*
*Яна ж застыла нерухома,*
*У сіняве густой знікае...*
*Такі цяжар,*
*такая стома,*
*Аж сонца вочы апускае.*
*Хай будзе дождж,*
*хай будзе вецер,*
*Хай будзе лівень,*
*быццам кіпень,*
*І хай вясёлкаю засвеціць*
*Буйны,*
*зялёны,*
*шчодры ліпень!*

* * *

*Чатыры словы — злітак залаты:*
*Кахаю,*
*веру,*
*помню і чакаю.*
*Ёсць толькі словы гэтыя і ты,*
*І — ні адлегласці,*
*ні часу,*
*ні адчаю.*

* * *

*Бываюць мары быццам хмары,*
*Павее вецер — і няма.*
*Аб чым я марыла — не мару,*
*Не веру ў тое больш сама.*
*Быў карабель — адны абломкі,*
*Згубіўся ў бурным моры след.*
*І толькі белыя аблокі*
*Плывуць кудысьці ў белы свет.*
*Заплакаць варта б, ды не плачу,*
*Як хмары — мары. Ну і што ж!*
*Цяпер з-за хмар вясёлку бачу,*
*І асвяжае сэрца дождж.*

* * *

*Не дагаварвай да канца прызнанняў.*
*Не выказаць таго,*
*Што невыказна.*
*Жаданей промень той,*
*Што ледзь прагляне*
*З-за хмар асенніх*
*Нават невыразна.*
*Нясцерпна надакучыць можа сонца,*
*Калі яно штодня ў блакіце ззяе.*
*Не выказаць таго нам,*
*Што — бясконца,*
*Што і ў маўчанні нашым*
*Акрыляе.*

* * *

*Сэрцу я даўно забараніла*
*Думаць пра цябе і гаварыць,*
*А яно з незразумелай сілай*
*Па табе, адзінаму, баліць.*
*А яно у цуд нязменна верыць,*
*Б'ецца ад чакання і надзей:*
*Раптам ты вось-вось адчыніш дзверы*
*З радаснай усмешкай, як раней.*
*І тады... О, гэта невыказна!*
*Шар зямны засвеціцца увесь,*
*І набудзе ўсё вакол адразу*
*Прыгажосць і найвялікшы сэнс.*

* * *

*О, так даўно цябе я ведаю,*
*Ды мы цяпер, як незнаёмыя.*
*З усімі клопатамі, бедамі*
*Адна спяшаюся дадому я.*

*І дзіўна, што з табою сталі мы*
*Чужымі толькі з дня ўчарашняга.*
*Масты разведзены і спалены.*
*«Маё», «тваё» — нічога нашага.*

## НЕАДПРАЎЛЕНЫЯ ПІСЬМЫ

*Як і раней, табе пішу,*
*Дзялюся думкамі, навінамі,*
*Але на пошту не нашу*
*Даўным-даўно канверты сінія.*
*Даўно пара забыць той час*
*І тое, што калісьці звязвала.*
*Ты ж мне — ні слоўца у адказ*
*На ўсё, што я табе расказвала.*
*А я пішу, як і раней,*
*Хоць пісьмы ўсе цяпер без адраса,*
*Ды не дзяліцца нельга мне*
*З табой і клопатам і радасцю.*
*Хоць, праўда, радасці няма,*
*Яна глыбока ў сэрцы схавана,*
*Яна пад снегам, як зіма,*
*Тваім маўчаннем вечным скавана.*
*Як і раней, табе пішу.*
*Дзялюся думкамі, навінамі.*
*Але на пошту не нашу*
*Даўным-даўно канверты сінія.*

* * *

*Не прыходзь, не чакаю, не клічу,*
*Для цябе не знайсці цёплых слоў.*
*Прамільгнула далёкаю знічкай*
*І, як зорка, патухла любоў.*
*Не прыходзь і не кліч вечарамі,*
*Для цябе ні хвіліны няма.*
*Не адлегласць ляжыць паміж намі,*
*А з густымі снягамі зіма.*

3 Зак. 874

* * *

*Навучы мяне мудрасці,*
*Маці-Радзіма,*
*Дай мне мужнасці*
*Вытрымаць гора любое.*
*Не баяцца ніякіх*
*ні бед, ні пакут.*
*Не прасіць ні палёгкі сабе,*
*ні спакою.*
*Надзялі мяне сілай*
*З празрыстых крыніц,*
*І забудзь аб няўдачах маіх і сумненнях.*
*Прад табою, Радзіма,*
*Схіляюся ніц,*
*Прад адзінай табой*
*Стаць магу на калені.*

## У ТУРЫСЦКІМ ПАХОДЗЕ

*Чырвоныя буслы над кацялком*
*Трапечуць крыллем,*
*выцягнуўшы шыі.*

*А кожны з нас адчуў сябе царком*
*І заспяваў ад сэрца*
*шчыра, шчыра.*

*Гарыць,*
*гарыць турысцкі наш касцёр,*
*У зарыве яго прыціхла Шчара.*
*Такая ноч*
*і свежасць,*
*і прастор,*
*Аж свеціцца ад радасці гітара.*



*Снежная зіма пушыцца ў голлі,*
*Белыя абвіслі правады,*
*Ды ад зімняй незалежна волі*
*Ручаёк бруіцца малады.*

*Летам і ў мароз — крыштальна чысты,*
*Ні спакою для яго, ні сну.*
*Ён, ад промняў сонечных іскрысты,*
*І зімой нагадвае вясну.*

*Іх у Беларусі ў нас — бясконца,*
*Можа, край таму і малады,*
*Што спрадвеку узыходзіць сонца*
*З гэтай чыстай і жывой вады.*

## УСЁ БЫЛО

*Усё было. І ўсё забыта.*
*І парасло даўно травой.*
*Я ні прывыкла, ні сярдзіта*
*Кіўну пры стрэчы галавой.*

*Пытанняў больш цяпер не будзе.*
*Чаго пытацца і аб чым?*
*З табою мы — чужыя людзі,*
*Нічым не звязаны...*
*Нічым?*

*...І раптам сэрца ўздрыганецца:*
*«Не можа быць, не можа быць!»*
*Няўжо святла не застаецца*
*Ад тых, каго маглі любіць.*

* * *

*Каціўся яблык з зялёнай горкі,*
*У хаце госці крычалі «горка».*
*Каціўся яблык, як сонца, спелы,*
*Да маладой у сукенцы белай.*
*Каціўся яблык, спявалі госці,*
*Скакаў гармонік ад весялосці.*
*...Скаціўся яблык з зялёнай горкі,*
*Ды ў хаце зноў закрычалі «горка».*
*Спяваюць госці, гармонік грае,*
*Сядзіць дзяўчына зусім другая.*

* * *

*Па небу сіняму разважліва*
*Ледзь бачны павучок паплыў,*
*І лета ў першы раз заўважыла —*
*Спякотны час яго прабіў.*

*І спахмурнелае, ўстрывожана*
*Сарвала пажаўцелы ліст,*
*І над калючай рыжай пожняю*
*Шчыруе днямі трактарыст.*

* * *

*Калі шчасце — гэта падкова,*
*Я падняць яе тут жа гатова.*
*Калі шчасце, як грыб, схавана,*
*Паімчуся ў лес раным-рана.*

*Калі шчасце ў далёкай далі,*
*Папрашу, каб білет мне далі.*
*Калі шчасце мае — чаканне,*
*То няхай прынясе яго ранне.*

* * *

*Кляновы ліст, як паплавок,*
*На цёмнай лужыне палае,*
*Яшчэ парыў,*
*яшчэ рывок,—*
*Зямля суцэльна залатая.*

* * *

*Залацісты зверабой*
*Ды вясёлыя рамонкі,*
*Быццам сонечны прыбой*
*Ля прынёманскай сасонкі.*

*І нібы на беражку*
*Незвычайнай казкі гэтай,*
*На зялёным муражку*
*Адпачыць прысела лета.*

*Крыллем трапяткіх стракоз*
*Звоніць Нёман.*
*Дзень смяецца.*
*І з зямлі самой прарос*
*Промень гэты вось, здаецца.*

* * *

*Аб чым я сёння напішу*
*І што скажу?*
*Душы ад крыўды цесна,*
*І муравейнікам кіпучым*
*Віруюць думкі ў галаве,*
*Мне хочацца крычаць*
*Аб крыўдзе гэтай.*
*На дапамогу клікаць...*
*Але каго?*
*Калі і боль, і крыўда*
*Ад самага найлепшага*
*З сяброў...*

* * *

*А звечара зноў дажджы*
*Грыбнымі звіняць дажджынкамі.*
*Да раніцы б мне дажыць —*
*І ў лес паспяшацца сцяжынкамі.*

*У той непаўторны край*
*З барамі густымі пявучымі.*
*Адзіны любімы рай*
*З дзяцінства са мной заручаны.*

* * *

*Я зноў адна на павароце...*
*Дарог няходжаных сувой*
*Ляжыць у восеньскай самоце,*
*З якой не вырвацца самой.*

*І так патрэбна зараз слова,*
*Сяброўскі позірк ці наказ,*
*Каб сіл знайсці і ўсё нанова*
*Пачаць, нібыта ў першы раз.*

* * *

*Хіляцца і хіляцца гады*
*Сонцам за далёкі небакрай,*
*А дажджы змываюць іх сляды*
*І з сабой прыносяць новы май.*

*Радуе па-новаму жыццё,*
*Абнаўленне кожнаму нясе,*
*І нязменна толькі пачуццё*
*Навізны і ўдзячнасці вясне.*

## ЛЕТНЯЕ

*Ні пра вясну, ні пра восень*
*Шэпчацца ў полі калоссе.*

*Зялёнае мора-лета*
*Запаланіла паўсвета,*
*Небам густым блакітным*
*Тоне за полем жытнім.*

*Сінім крылом стракозы*
*Трапеча ў кустах лазы...*

*Вее радасцю вечнага,*
*Сучаснага і спрадвечнага.*

## ПЕРШЫ КРОК

*Бярозы белы ўбор надзелі,*
*Спакойна дрэмлюць пад акном,*
*А ранак зноў нясе надзеі*
*І напаўняе ўсё святлом.*
*Ноч замяла мае сумненні,*
*Вячэрні роздум — як ні быў!*
*Найбольшай яснасці імгненне*
*Мне дзень на шчасце падарыў.*
*І я ў свой свет, стары і новы,*
*Раблю бадзёра першы крок,*
*Які ўсяму цяпер аснова*
*І заўтра — новага выток.*

* * *

*Сасна. Прынёманская круча,*
*І неба без канца і краю...*
*Калі мне горка ці балюча,*
*Я на жыццё не наракаю.*

*Вазьмі, рака, мае нягоды,*
*Іх закружы ў віры імклівым*
*І адары, як і заўсёды,*
*Сваёй бадзёрасці прылівам.*

## ТРЫ АКНЫ

*За тым акном — пачатак свету*
*І непаўторнае святло,*
*Я па яго святому следу*
*Іду ў далёкае «было».*

*Там над калыскай — песні маці*
*І сон, як сіні матылёк.*
*Вачэй світанне ў роднай хаце*
*І, як зара, румянасць шчок.*

*Там сто «чаму?» і сто адказаў,*
*І кожны з іх — як адкрыццё,*
*І там ніхто нічым, ні разу*
*Не засмуціў маё жыццё.*

* * *

*Гляджу ў акно сваё другое.*
*О, колькі планаў і трывог!*
*І разбягаюцца ракою*
*Сто самых радасных дарог.*

*Юначы позірк неадрыўны,*
*Як споведзь, сэрца ўскалыхнуў*
*Адным імгненнем незабыўным*
*Усё змяніў і павярнуў...*

*Сустрэчы, кветкі, песні, слёзы*
*І развітальны боль такі,*
*Што нават беглі ўслед бярозы,*
*Каб дакрануцца да рукі.*

* * *

*Святло, святло, чаму не свеціш?*
*Цямнее трэцяе акно.*
*І я іду па белым свеце*
*І цвёрда ведаю адно:*

*Прыйду сюды з дарогі дальняй*
*І запалю святло сама*
*У той хаціне роднай, даўняй,*
*Якой найблізшае — няма.*

## *МАЦЯРЫНСКАЯ ЛЮБОЎ*

*Многае чакаецца,*
*Ды не ўсё знайсці,*
*Дзень за днём мяняецца,*
*Дню за днём ісці.*
*На рамонкі белыя*
*Пáдае раса.*
*Стала пасівелаю*
*Чорная каса.*
*Грэе успамінамі*
*Восень і зіма,*
*Хілішся рабінаю*
*Да зямлі сама.*
*Што прайшло, што ўбачана,*
*Не паўторыш зноў.*
*Толькі не растрачана*
*Маміна любоў.*
*Тая, што іскрынкамі*
*Свеціцца ў вачах.*
*Над маімі ўчынкамі*
*Кружыць па начах.*
*Што з маёй, бяссонная,*

*Радасцю-бядой,*
*Што са мной, нястомная,*
*З вераю святой.*
*Ёй адной абуджана*
*На зямлі жыццё*
*І прыносіць суджана*
*Шчасця пачуццё.*

* * *

*Бязвоблачныя дні вясны,*
*Сады, як казачныя сны,*
*Як ціхі ўсплеск, як лёгкі ўздых,*
*Той самы найсвяцейшы міг*
*Нясу праз тысячы начэй,*
*І чым далей ён — тым ярчэй.*

*Магчыма толькі з-за яго*
*Цяпер баюся аднаго:*
*Не затушыць таго святла,*
*Якім сама калісь была.*



* * *

*Раным-рана сёння ўстану,*
*Сонца выгляне з туману,*
*І народзіцца жаданне*
*Перанесці гэта ранне*
*У задумлівыя струны,*
*У чаруючыя фарбы,*
*У жывое вечна слова.*

## НЕ ШКАДУЮЦЬ СЛОЎ ВЫСОКІХ

*Не шкадуюць слоў высокіх*
*Для цябе, мой край, паэты.*
*Твае рэкі і прытокі,*
*Твае вёскі ўсе апеты.*

*Твая мудрасць, твая сіла —*
*Невычэрпная крыніца.*
*Ты, зямля, нас нарадзіла*
*Для таго, каб ганарыцца*

*І сабой, і ўсімі намі,*
*Як адзіным, непарыўным,*
*Шчодра радаваць дарамі*
*І святлом сваім прызыўным.*

*Не адпусціш на хвіліну*
*Ад сябе людское сэрца,*
*Ты, зямля, мая Айчына,*
*Мой пачатак і бяссмерце.*



*Я да цябе ізноў іду, мой лес,*
*Прытулак задумённай цішыні.*
*Напоўнены ты музыкай увесь,*
*І сосны ў сонцы, быццам у агні.*

*Ты бацька, ты настаўнік мой і ўрач,*
*Са мною па-сяброўску памаўчы.*
*Прымі паклон мой нізкі і прабач,*
*Калі цябе не ўмею берагчы.*

* * *

*Я ўсім была на свеце гэтым;*
*Стаяла грушай ля варот,*
*Не раз квітнела ў лузе летам,*
*Лятала ў вырай колькі год,*

*Шумела коласам на полі,*
*Была сястрычкаю бяроз.*
*Я ўсім была.*
*І вось на долю*
*Мне чалавечы выпаў лёс.*

*Таму з адказнасцю двайною*
*Рабіць павінна кожны крок,*
*Каб ні зямля, ні ўсё жывое*
*Ні ў чым не кінулі папрок.*

* * *

*Прамільгнулі дні,*
*як птушкі сінія,*
*Ні дагнаць іх нельга,*
*ні вярнуць.*
*Прылятаюць вёсны,*
*быццам з выраю,*
*І надзеі новыя нясуць.*
*Імі сёння —*
*сэрца зноў напоўнена,*
*І таму — ні жалю,*
*ні тугі.*
*...А зямля,*
*густым дажджом напоена,*
*Абнаўляе поле і лугі.*

* * *

*Асыпаецца ў росы*
*Густы Млечны Шлях,*
*Таямніча за борам далёкім*
*Губляецца.*

*І спалохана ўздрыгвае:*
*Дзесьці ў садах*
*Гучна яблык даспелы*
*Зрываецца.*



*Бываюць словы, як туман,*
*Усё акутаюць спакоем,*
*Суцішаць боль пякучых ран,*
*Трывогу знімуць, як рукою.*

*Туман знікае без слядоў,*
*Пад ясным сонечным праменнем,*
*І вырасце з прыгожых слоў*
*Не ўдзячнасць — гнеў і абурэнне.*

*Я паўтараю зноў і зноў:*
*Як важна ведаць слова меру.*
*Не трэба слоў, прыгожых слоў,*
*Вачам і сэрцу толькі — веру!*

* * *

*Выраслі ўсе дзеці,*
*Апусцела хата,*
*І цяпер чакае*
*Цётка Ганна свята.*

*Можа, заўтра — сёння*
*Зноў усе збяруцца.*
*Звонкаму застоллю*
*Сцены адгукнуцца.*

*Будзе песень многа,*
*Тых, што кожны знае:*
*Родны дом! Дарога*
*Да цябе святая.*

* * *

*То добрае, то злое-рознае*
*Нясе жыццё мне зноў і зноў.*
*Падчас навіснуць хмары грозныя,*
*Нянавісць выкрасліць любоў.*

*Ды я знайду сваё сапраўднае,*
*Усё жаданае знайду.*
*Жыццё мяне нязменна радуе,*
*Я на святло зары іду.*



*Зрабіла восень*
*толькі крок нясмелы,*
*А ўжо сваіх дароў нясе багата.*
*Як зоркі праз туман,*
*праз яблык спелы*
*Прасвечваюць маленькія зярняты.*

*Лісічкі ды пажоўклая лістота,*
*Як светлячкі,*
*мільгаюць паміж сосен.*
*І свеціцца ўсёй сваёй істотай*
*Спакойная*
*упэўненая восень.*

* * *

*На палявую сцежку павярну,*
*І ўжо — увесь сусвет перада мной.*
*Трымае ў дзюбе жаўранак струну,*
*Нацятую між небам і зямлёй.*

*На дрэвах, на зямлі — вясенні ўбор.*
*І толькі, быццам прывід, міражы:*
*Каля далёкіх палявых разор*
*Чарнеюць над магіламі крыжы.*

*Тут цішыня, як стоены падман,*
*Вось-вось маланка бліснe над зямлёй.*
*І зразумееш — цішыні няма,*
*Ідзе нябачны, несупынны бой.*

## АДЗІНАЕ СЛОВА

*Здаецца, світае.*
*Камечу паперу.*
*Я слова шукаю,*
*І знойдзецца, веру.*
*Я веру, што слова,*
*Адзінае слова*
*Знайду, адшукаю*
*Між тысячы слоў.*
*Адзінае слова,*
*Адзінае слова*
*Вярнуць толькі зможа*
*Спакой і любоў.*



*Побач з пшаніцай пасеялі лён,*
*Побач з рабінай красуецца клён.*
*Побач з дзяўчынай — нясмелы юнак.*
*Слоў не знаходзіць патрэбных ніяк.*
*Не верыць пшаніца,*
*што вырасце лён,*
*Не бачыць рабіна,*
*як хіліцца клён.*
*Хоць вечара ён прычакае ледзь-ледзь,—*
*Не хоча дзяўчына на хлопца глядзець,*
*Дажалі пшаніцу*
*і выбралі лён.*
*Даспела рабіна,*
*у чырвані клён.*
*І толькі юнак неспакойны адзін*
*Ходзіць і ходзіць ля сумных рабін.*

* * *

*Кавалачкі пісьма і першы снег,*
*І слёзы на далонях і на вейках...*
*Усё ўспрымаю, як у страшным сне*
*І раву не пісьмы — чэрстваць чалавека.*

* * *

*Стаю прад юнаю, табой,*
*І не магу вачэй адвесці,*
*І гавару сама з сабой;*
*І напаўняюць сэрца песні.*

*Расці табе, яшчэ расці,*
*Купацца ў росах зіхатлівых*
*І па маіх слядах ісці*
*Дзяўчынкай кволенькай, шчаслівай.*

*Усё, што ў небе і зямлі*
*Ты ўбачыш, возьмеш і адчуеш,*
*Са мной, як сёння, падзялі,*
*Калі, магчыма, засумуеш.*

* * *

*Пад нагамі званочкамі дзінькае снег,*
*Аж прыціхлі бярозы ўрачыста і велічна.*
*Што не іней,*
*карункавы ўбор на сасне*
*Натуральна і хораша ў гэта мне верыцца.*
*Я іду, і здаецца,*
*не скончыцца шлях,*
*Я іду,*
*як на свята якое вялікае.*
*Як да шлюбу, сабралася сёння зямля*
*І людзей да сябе*
*на вяселле паклікала.*

### *ПАГАНІНІ*

*Спявае пра бяссмерце на зямлі*
*Чароўнай скрыпкі непаўторны голас.*
*Каб гукі ўсе зярнятамі былі,—*
*З іх нарадзіўся бы такі пявучы колас,*
*Які да сонца цягнецца, расце,*
*І зерне асыпае ў нашы сэрцы...*
*Я аднаго хачу:*
*няхай часцей*
*Спявае людзям скрыпка пра бяссмерце.*

* * *

*Недарэмна гавораць: мудрасць*
*Заключаецца ў прастаце.*
*Гэта ў-ёй:*
*і вялікая мужнасць,*
*І наіўная вера дзяцей.*

*Сярод ніў і лясоў узросшы,*
*Я прымаю такую быль:*
*Зноў і зноў прастаце зайздрошчу,—*
*Простай гэтак не проста быць.*

* * *

*На клавішы спускаю рукі,*
*Як быццам лодку на ваду.*
*Удаль плыву па моры гукаў*
*І іншых за сабой вяду.*

*Паслухайце.*
*У ноце кожнай*
*Не толькі радасці напеў.*
*У ёй успыхваюць трывожна*
*Адчай і горыч, боль і гнеў.*

*Я вам сыграю.*
*Немагчыма*
*Быць абыякавай, чужой.*
*Перад харошымі вачыма,*
*Перад Айчынаю сваёй.*

* * *

*Не адкрыеш душы сустрэчным,*
*І не з кожным падзеліш беды,*
*І здаецца, не дзень, а вечнасць*
*Да цябе я на споведзь еду.*

* * *

*Ты кажаш — быць самой сабой,*
*Ды сонца знікне за імжою,*
*І зной прайграны новы бой,*
*І ныюць раны пасля бою.*
*Усё, здаецца, на зямлі*
*Раптоўна рушыцца і рвецца,*
*І з мора ў вузенькі заліў*
*Загнана сціснутае сэрца.*
*Свой нежаданы сум нясу,*
*Іду, губляюся ў дарозе*
*Без адпачынку і без сну,*
*Я ледзь не падаю ў знямозе.*
*І ўсё ж іду я ў новы бой*
*За права быць самой сабой.*

* * *

*Як ні круці — ад праўды не схаваешся.*
*Яе не ўтопіш нават у мане.*
*Хоць нават ад яе і адракаешся,*
*Але яна цябе не абміне.*

* * *

*На самай далёкай вярсце*
*Параніла птушка крыло.*
*Жаданне ўзляцець расце —*
*Сілы, як не было.*
*На самай найлепшай з мар*
*Разбілася сэрца ў грудзях,*
*І водблеск,* [redacted] *не пажар*
*Цяпер асвятляе шлях.*
*Нялёгка ўсё зноў пачаць,*
*Чакаць, набірацца сіл.*
*Ды вечна будзе гучаць*
*Радасць ва ўзмаху крыл.*

* * *

*Цішыня, як спружына мулкая,*
*Дождж шуміць і мінае поўнач...*
*...Я адна са сваімі думкамі,*
*I сусвет неабдымны — побач...*

* * *

*Гадзіннік цікае,*
*Як сэрца ціхае,*
*І непрыкметна*
*У каторы раз*
*Хвіліны падаюць,*
*Гадзіны падаюць,*
*Спакойна тоне*
*Пражыты час.*
*Чамусь не верыцца,*
*Што больш не вернецца*
*Ні дзень вось гэты,*
*Ні гэты час.*
*Усё мяняецца,*
*Але ўяўляецца*
*Усё, што к горшаму —*
*Не аб нас.*

* * *

*Майго юнацтва першы крок,*
*Як сонца, гляне з-за аблок,*
*Дымком павее ад кастра*
*Вясны далёкае сястра.*
*Усмешкай выгляне з вачэй —*
*І стане шэры дзень ярчэй.*

* * *

*Так светла і сонечна ў лесе,*
*Так хораша тут ля сасны:*
*На тоненькіх ножках пралескі*
*Танцуюць пад гукі вясны.*

* * *

*Упалі зоркі ў возера на дно,*
*І неба зажурылася ў маўчанні.*
*Прырода з чалавекам заадно,*
*Ім па душы начныя вандраванні.*
*Цікава зоркам гойдацца ў вадзе,*
*За тымі назіраць, каму не спіцца,*
*Хто ноччу гэтым берагам ідзе,*
*Каб думкамі з прыродай падзяліцца.*

* * *

*На верасе, родным верасе,*
*Між тонкіх бярозак белых*
*Так марыцца і так верыцца,*
*І думаецца так смела.*
*Вярнуся з дарог далёкіх,*
*Сюды, ў гэты сіні верас.*
*І зноў палягчэюць крокі,*
*І зноў буду ў шчасце верыць.*

ЗМЕСТ

На белорусском языке

Мария Силантьевна Шевчонок
ПРАЗДНИК ЗЕМЛИ

Рэдактар Хв. М. Чэрня. Мастак А. Г. Кузькін. Мастацкі рэдактар М. Р. Казлоў. Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал. Карэктар Л. Г. Законнікава.

АТ 21036. Здадзена ў набор 28/XI 1975 г. Падп. да друку 10/III 1976 г. Тыраж 5000 экз. Фармат 60×90[1]/[32]. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 2,5. Ул.-выд. арк. 1,43. Зак. 874. Цана 14 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Савецкая, 19.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. Мінск, Ленінскі праспект, 79.

**Шаўчонак М.**

**Ш29** Свята зямлі. Вершы. Мн., «Маст. літ.», 1976.

80 с.

Хараство прынёманскага краю, лірычная споведзь перад Бацькаўшчынай, каханне—асноўныя матывы новага зборніка маладой паэтэсы.

Ш $\frac{70403\text{-}106}{М\ 302(05)\text{-}76}$ 59-76 Бел 2

